Буцін, Д.С. Склад удзельнікаў копнага суда на беларускіх землях Вялікага княства Літоўскага (XVI—XVII ст.) / Д.С. Буцін // Працы гістарычнага факультэта БДУ : навук. зб. Вып. 5 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск : БДУ, 2010. — С. 9-18.

**Д.С. Буцін**

# СКЛАД УДЗЕЛЬНІКАЎ КОПНАГА СУДА НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА (XVI—XVII ст.)

Склад і колькасць удзельнікаў копнага сходу не з’яўляліся пастаян нымі велічынямі, а вызначаліся часцей за ўсё сур’ёзнасцю справы, якую разглядала капа, а таксама некаторымі іншымі абставінамі [6, арк. 44 — адв., 45].

У актах сустракаюцца наступныя назвы судовых зборак: «малая гра мадка», «вялікая грамада», «зграмаджэнне вялікае». Адносна колькасці людзей крыніцы прыводзяць наступнае: «багата людзей», «шмат лю дзей», «нямала», а ў некаторы раз называюцца нават дакладныя лічбы — ад 7 да некалькіх сот чалавек [1, № 112, 181, 189]. Колькасць і склад



капы ў першую чаргу залежаў ад таго, колькі вёсак ці іншых паселішчаў збіралася на сход і іх памераў. Судовыя дакументы прыводзяць выпадкі копных сходаў, дзе ўдзельнічалі жыхары ад 1 да 18 населеных пунктаў. Ф. Леантовіч прыйшоў да высновы, што на адной капе магло прысутні чаць насельніцтва ажно з 33 вёсак [5, с. 98]. Аднак гэтае меркаванне сведчыць аб тым, што магло быць, а не абавязкова было насамрэч, бо дакладна невядома, ці пачалі ўвогуле функцыянаваць копныя суды ў Троцкім ваяводстве. Крытэрыі, па якіх у склад таго ці іншага судовага працэсу ўваходзіла пэўная колькасць людзей і паселішчаў, маглі быць рознымі. Калі справа тычылася інтарэсаў адной грамады ці вёскі, лагіч ным з’яўляецца той факт, што толькі мясцовыя жыхары складалі капу. У выпадках буйных злачынстваў (крадзеж у вялікіх памерах, чараўніцт ва, забойствы, падпалы), якія маглі закранаць сабою інтарэсы шматлі кай колькасці людзей, удзельнікамі суда было ўжо адчувальна большае кола населеных пунктаў са сваімі прадстаўнікамі. Шматлюдныя копы практыкаваліся і тады, калі злачынца быў невядомы — чым больш было ўдзельнікаў суда, тым большай з’яўлялася верагоднасць выкрыцця зла чынства [9, с. 137—138].

Традыцыйна выходзілі на капу і прымалі ў ёй актыўны ўдзел у выг лядзе суддзяў прадстаўнікі і падданыя каралеўскіх, шляхецкіх і царкоў ных вёсак; жыхары каралеўскіх і шляхецкіх двароў і ваколіц; духавен ства; мяшчане; баяры і зямяне; шляхта; панымагнаты; вясковыя кіраўнікі (старцы, войты, лаўнікі, цівуны); нацыянальныя меншасці (яўрэі, татары, цыганы), а часта і дзяржаўныя ўраднікі. Такім чынам, усе тыя, хто належаў да пэўнага капавішча ці копнай аколіцы.

Існаваў шэраг патрабаванняў да суддзяўкопнікаў, што колькасна вельмі абмяжоўвала гэтую кіруючую частку сходу. Копнымі суддзямі маглі быць толькі дарослыя мужчыны, а жанчыны і непаўналетнія зза адсутнасці вопыту і ведаў звычаёвага копнага права ніколі не ўваходзілі ў дадзеную катэгорыю. Апошнія ўвогуле вельмі рэдка прысутнічалі на капавішчы, а калі ж такое здаралася, выступалі часцей за ўсё простымі назіральнікамі або сведкамі, надзвычай спарадычна былі істцамі ці ад казчыкамі па справе. Суддзямі з’яўляліся выключна гаспадарыдома ўласнікі той ці іншай мясцовасці, але калі яны былі кагосьці падданымі, то выступаць у гэтай якасці мелі права толькі са згоды свайго землеўла дальніка. Копнымі суддзямі не мелі права быць асобы, што раней былі абвінавачаны судом у нейкім злачынстве, прызнаныя лгунамі ці пак лёпнікамі, а таксама

«вываланцы» (людзі, прызнаныя грамадствам па за законам). Адначасова ў выглядзе суддзяў не мелі магчымасці дзейні



чаць ісцы, адказчыкі, афіцыйныя асобы ( апошнія толькі да XVII ст.), сведкі, назіральнікі і абслугоўваючы персанал капы — кат, святар.

Асноўную масу ўдзельнікаў і суддзяў з прычыны сваёй шматлікасці складалі людзі простага стану — сяляне, менавіта таму копны суд часта носіць назву народны, або сялянскі (грамадскі, абшчынны). Асобы, якія заклікаліся на копны сход, былі вядомымі пад агульнымі назвамі: «су седзі», «суседзі аколічныя», «суграністыя» і г. д. Усе яны з’яўляліся сап раўднымі, аднак своеасаблівымі суддзямі.

У суддзі на капу прыцягваліся не ўсе сяляне вёсак і асобы іншых ста наў, а толькі тыя выбарныя з іх, якія лічыліся больш паважанымі, шчы рымі, разважлівымі, мудрымі і знаёмымі з правам копным. Імі маглі быць старцы, сялянедомаўласнікі, войты, лаўнікі, ураднікі, увогуле тыя, хто лепш за іншых ведаў мясцовых жыхароў і мог несці адказнасць за вёску, двор, мястэчка [7, с. 7].

Мяшчане не ўсіх гарадоў прымалі абавязковы ўдзел у капе ў якасці дзеючых асоб, у тым ліку і суддзяў. У тых гарадах і мястэчках, дзе было ўведзена нямецкае Магдэбургскае права, насельніцтва якіх знаходзіла ся пад яго абаронай, магло адмовіцца ад удзелу ў копным судзе. Аднак дастаткова часта і месцічы, што карысталіся правам на самакіраванне, не адмаўляліся ад удзелу ў сходзе і адпраўленні копнага права. З вёсак, як і з іншых месцаў, звычайна выходзілі на суд па адным, два альбо тры прадстаўнікі. Гэта было абумоўлена тым, што вялікая коль касць людзей на капе (больш за сотню) прыводзіла б да бязладдзя, пры якім вельмі складана было выкрыць сляды злачынства і вырашыць спра ву. Але ж самая галоўная прычына дадзенай практыкі — шматлікасць сялянскіх прадстаўнікоў адрывала б апошніх ад сваіх першасных зем ляробчых заняткаў, бо копныя сходы адбываліся часцей за ўсё летам, увесну і ўвосень. Таму копы не маглі з’яўляцца шматлюднымі: часцей за ўсё 15—30 чалавек з адной ці некалькіх вёсак. Калі справа патрабава ла дадатковай увагі — 50—60 чалавек. Але пры зборы апошняга сходу па цяжкіх справах колькасць копнікаў магла даходзіць ажно да 120—150 чалавек з 15 і больш вёсак, аднак гэта выключныя выпадкі. Кожны на ступны сход, калі іх было некалькі, часцей за ўсё быў шырэйшым за папярэдні — больш людзей больш меркаванняў. На капу маглі прыйсці ўсе жадаючыя, бо яна з’яўлялася своеасаблі вай школай звычаёвага права, дзе ажыццяўляўся сапраўдны прававы ўсевобуч насельніцтва, пераймаліся і засвойваліся копныя звычаі і тра дыцыі. Толькі частыя наведванні гэтых зборак рабілі з падлеткаў буду чых сталых копных мужоў.



Нельга не заўважыць, што ўдзельнікамі капы ў якасці суддзяў былі таксама ж зямяне, баяры і нават шляхта, але гэта сустракалася значна радзей у параўнанні з дзейнасцю суддзяў з сялянскага асяроддзя [11, №97, 185, 244]. Дакументы другой паловы XVI — першай паловы XVIII ст. адзначаюць актыўны ўдзел прадстаўнікоў мясцовай вялікакняс кай улады (віжаў, возных, генералаў, падкаморыяў, валасных войтаў і іншых ураднікаў) у справе арганізацыі і правядзення копных судоў, а таксама іх жаданне паўплываць на ход і вынік пасяджэнняў. Прадстаў ніцтва шляхты ў сялянскіх сходах актывізуецца ў перыяд другой паловы XVI ст. і надалей. Копнікі самі запрашалі на сходы прадстаўнікоў улад ных колаў грамадства, якія спачатку (да XVII ст.) не ўмешваліся ў спра вы капы, аднак сваёй прысутнасцю надавалі яе пастановам больш важ касці, аўтарытэтнасці і юрыдычнай моцы. Маўчанне такіх сведак, што прысутнічалі на сялянскіх сходах, звычайна казала аб згодзе з копнымі рашэннямі і рабіла гэтых асоб свайго роду саўдзельнікамі народнага суда.

Для больш якаснага выканання судом сваіх функцый і абавязкаў копнае права выпрацавала інстытут «абраных копных суддзяў». Амаль усе капляне зваліся «суддзямі копнымі». Але інстытут абраных копных суддзяў, які ўтвараўся пасля выбару апошніх усімі членамі копнага схо ду — звычайнымі суддзямікопнікамі, меў некалькі іншыя характарыс тыкі, большы аб’ём правоў і абавязкаў у параўнанні з кампетэнцыяй шараговых удзельнікаў суда. Суддзіабранцы з’яўляліся першымі сярод роўных падчас судовага працэсу. Спачатку капа магла абраць некалькіх асоб з нейкай мэтай ці заданнем да іх: уважліва слухаць і назіраць за ўсім, што адбываецца на пасяджэнні, бо часта ў выніку шматлюднасці не ўсе з копнікаў мелі фізічную магчымасць усё ўбачыць, пачуць і пра вільна зразумець. Сустракалася, калі суддзяў абіралі не для вядзення су даводства падчас працэсу, а ўжо пасля прысуду для ўхвалення выраку. Іншы раз абранымі суддзямі на сходзе з’яўляліся не звычайныя копнікі, а «старана» (прытомны бок, па словах Г. Дземчанкі) — сведкі тых ці іншых судовых суб’ектаў. Час ад часу не самі капляне абіралі суддзяў, а перадавалі гэтае права зацікаўленай у справе асобе. Нарэшце, суддзяў са свайго боку мог выставіць як ісцец, так і адказчык з умовай абавяз ковай копнай згоды з дадзеным варыянтам, а далей яны ўжо разам раз глядалі пэўную справу. Трэба разумець, што абраным суддзям не пера давалася ўся справа цалкам, капа ў любы момант мела права ўмяшацца ў ход працэсу. Падчас пасяджэння, у допыце і іншых частках судавод ства разам са згаданымі суддзямі маглі прымаць удзел і копнікішара гоўцы, якія потым таксама выносілі прысуд і ўдзельнічалі ў яго здзяйс-



ненні. Канчатковы вырак прымаўся ўсім судом разам, а не толькі аб ранцамі. Колькасць дадзеных суддзяў магла вагацца ад некалькіх чала век да некалькіх дзесяткаў. Іх сацыяльны склад і маральныя якасці былі тоеснымі з адпаведнымі паказчыкамі ўсіх копных членаў — «людзі доб рыя, веры годныя» простага альбо шляхецкага паходжання. Разам з тым неабходна зазначыць, што інстытут абраных суддзяў даволі рэдкая з’ява для копнага права, а таму дастаткова ўмоўная і дакладна не акрэсленая.

Пачынаючы з XVII ст., шляхта і дзяржаўныя ўраднікі пачалі выкон ваць і непасрэдна судзейскія функцыі насуперак традыцыйна кансерва тыўнай пазіцыі сялянства на гэты конт. Гэта прыводзіла да неаб’ектыў насці суда, вынясення абсалютнай большасці яго рашэнняў на карысць вышэйшых станаў грамадства. Сяляне адхіляліся ад сваёй традыцыйнай прававодчай дзейнасці, паніжаўся маральны аўтарытэт капы, што вяло да знішчэння самабытнага копнага права. Дадзеная акалічнасць, бадай, стала адной з галоўных у шэрагу прычын заняпаду копнай практыкі. Недатыкальнасць суддзяў і іх уласная дысцыпліна на капе, як і ў іншых дзяржаўных судах, кантралявалася статутавымі артыкуламі. Але гэта некаторы раз не абараняла сход ад свавольстваў яго ўдзельнікаў або саміх суддзяўкаплян. Сустракаліся выпадкі, што супраць упартых пад судных збіраліся своеасаблівыя «павятовыя рушанні» з мэтай вымусіць апошніх выканаць рашэнне капы.

Ад тагачасных копных суддзяў патрабавалася нашмат больш разу мовай працы, чым ад сучасных ім дзяржаўных (урадавых), бо капляне мелі справу не з гатовымі законамі. Яны трансфармавалі юрыдычна прававы звычай і традыцыю ў закон, а потым і ў прысуд. Копныя сходы адбываліся даволі часта і адбіралі ў суддзяў шмат часу, патрабавалі ад іх вялікага інтэлектуальнага і фізічнага напружання, высокай маральнай адказнасці. Таму са старажытных часоў пайшла традыцыя, паводле якой пасля заканчэння кожнай справы яе пераможца павінен быў унесці гра шовую плату як узнагароду за праўную дзейнасць суддзяўкопнікаў — своеасаблівую судовую аплату (пошліну): «перасуд» і «памятнае». Па лову ад перасуда і памятнага суддзі бралі сабе, а другую — пакідалі таму пану (ураднiку), чый падданы быў абвінавачаны і павінен быў узнавіць страты пакрыўджанага боку. Калі пан пагаджаўся з копным рашэннем і браў палову дадзенай сумы, ён вяртаў частку сваіх жа грошай. Калі не — гэтую частку платы копнікі адносілі да старасты ў гродскі суд [8, раздз. XIV, арт. 6; раздз. IV, арт. 53]. Амаль

усе члены сходу неслі калектыўную адказнасць за свае дзе янні і рашэнні, таму ўсіх іх можна залічыць у склад суддзяў. Усё, што



рабілася на судзе, паходзіла ад імя ўсёй капы, ад імя ўсіх удзельнікаў сялянскага збору. Суддзямі ж (у вузкім сэнсе) былі самыя паважаныя прадстаўнікі грамадства, часцей за ўсё сялянестарцы.

За дапамогай да копнага суда магла звярнуцца любая асоба, што пацярпела «шкоду». Гэта пацвярджалася не толькі звычаёвым правам копным, але і артыкуламі Статутаў ВКЛ — «естли бы укривжоный зло действом хотел шкоды своее доходити копою». Калі было здзейснена нейкае злачынства, асабліва тайным спосабам, мясцовая капа мела маг чымасць, сродкі і вопыт найбольш хутка, дасканала і танна знайсці вінаватага. Таксама ж вымусіць яго публічна прызнацца не толькі ў дадзенай шкодзе, а і прымусіць расказаць пра сваіх памагатых ці іншых праступках, якія ён (альбо хтосьці яшчэ) зрабіў у мінулым, што не былі раскрыты. Разам з тым справы, якія разглядаліся ў дзяржаўных судах ВКЛ, маглі чакаць сваёй чаргі ад некалькіх месяцаў да дзесяткаў год. Ісцамі на капе былі прадстаўнікі ўсяго тагачаснага грамадства, што яскрава сведчыць аб тым, які вялізны маральны і прававы аўтарытэт насіла дадзеная судовая ўстанова. Яны ў абсалютнай большасці з'яўля ліся арганізатарамі сходу і яго вядучымі. Кола копных ісцоў было нашмат больш шырокім, у параўнанні з асобамі, што звярталіся да іншых вялікакняскіх судоў. Сярод іх: а) сяля непадданцы, ад іх імя звяртаўся іх пан (ураднік) — яны складалі боль шасць ад агульнай масы ўсіх пацярпелых; б) вольныя сяляне — высту палі ад свайго ўласнага імя; в) мяшчане; г) духавенства, цэрквы і мана стыры — звярталіся да капы як па царкоўных (рэдка), так і па асабістых справах; д) баяры і зямяне (прамежкавы стан паміж ніжэйшай шляхтай і вышэйшым сялянствам); е) шляхта; ё) магнаты (надзвычай рэдка); ж) дзяржаўныя ўраднікі — ад імя вялікага князя (вельмі рэдка); з) роз ныя афіцыйныя і службовыя асобы — звярталіся ад свайго імя (пісар, скарбнік, скарбовы намеснік, каралеўскі сакратар, стольнік, ляснічы, стараста, падстараста, суддзя, падсудак, харужы, мечнік, маршалак, адміністратар, ваявода, лоўчы і г. д.); і) прадстаўнікі нацыянальных мен шасцяў (яўрэі, татары, цыганы); к) гродскі і панскі суды (рэдка). Разнастайнасць ісцоў на капе сапраўды ўражвае, і гэта зразумела, бо для кожнай асобы было карысным звярнуцца да такога дзейснага след часудовакаральнага органа падчас нейкага гора. Аднак колькасць коп ных адказчыкаў з'яўляецца нашмат менш разнастайнай. Дадзены факт выглядае зусім натуральным, калі звярнуцца да чалавечай псіхікі — кож ны жадае, каб яго крыўдзіцель панёс заслужанае пакаранне, але ўся лякім чынам імкнецца пазбегнуць адказнасці ў выпадку здзяйснення



ўласнага злачынства. Капа як вельмі эфектыўная ўстанова, безумоўна, палохала любую асобу, у якой было не ўсё чыста за душою. Прадстаўнікі дзяржаўнай улады і пануючага саслоўя ў моманты свайго прыцягнення да судовай адказнасці часта абражалі, не выконвалі прысуды або ўвогу ле разганялі капу (асабліва ў XVII—XVIII ст.). Гэта адбывалася пад шыль дай сваёй шляхецкай годнасці — мы не павінны адказваць перад му жыцкім (ён быў у сапраўднасці ўсенародным) судом, перад сваімі пад данымі і прыгоннымі [10, с. 215]. Але ўсё ж такі лагічна тое, што калі асоба прызнавала магчымасць свайго ўдзелу на судзе ў якасці ісца, то гэтым самым чалавек адначасова пагаджаўся і з тым, што ў будучым ён можа апынуцца на супрацьлеглым баку.

Адказчыкам на капе з'яўляліся: а) падданыя сяляне (часцей за ўсіх астатніх); б) вольныя сяляне; г) мяшчане; д) баяры і зямяне (даволі ча ста); е) шляхта; ё) духавенства (адзінкавыя выпадкі); ж) яўрэі; з) афіцый ныя асобы, напрыклад возны (рэдка); і) чужынцы (дастаткова рэдка). Пачынаючы з XVII ст. шляхціцы ўсяляк імкнуліся пазбегнуць коп най адказнасці, кажучы, што іх на капу можа паклікаць толькі шляхціц.

Выходзіць на гэткі суд з'яўлялася для іх сарамлівай рэччу. Шляхта сцвяр джала, што яна не падсудная простаму народу [3, с. 25].

Абсалютную большасць на копным сходзе як сярод ісцоў, так і адказ чыкаў складалі сяляне, але дзейнасць дадзенай установы ахоплівала ўсё грамадства цалкам. Копны сход — гэта суд пэўнай часткі грамадства, таму ён патрабаваў прысутнасці ўсіх сваіх членаўжыхароў на пасяджэнні і поўнай шчырасці ў іх паказаннях. У некаторых выпадках існавалі на ват спісы насельніцтва розных паселішчаў, па якіх копнікі правяралі, ці ўсе выйшлі на капу. Калі адразу шкоднік не быў вядомы, а капа даведва лася, што ў кагонебудзь з жыхароў копнай аколіцы падчас злачынства знаходзіўся госць, то апошні абавязаны быў таксама выйсці на капу. Але існавалі і ўважлівыя прычыны нез'яўлення на сход: а) грама дзянская неправамоцнасць (дзеці, у некаторым сэнсе жанчыны і пад леткі); б) службовыя абавязкі; в) забарона гаспадаром з'ўляцца на капе свайму падданаму; г) звальненне ад копнага абавязку мясцовым кіраў ніцтвам; д) хвароба; е) адсутнасць пры ўмове няведання аб зборцы; ё) сельскагаспадарчыя працы («час пашны»); ж) наяўнасць шляхецтва, але з дадзенай прычынай капа часцяком не лічылася. Усе гэтыя фактары спрацоўвалі толькі тады, калі чалавек, што іх вы карыстоўваў, папярэджваў капу аб гэтым раней і выстаўляў замест сябе свайго прадстаўніка. Калі сход быў няпоўным, яго маглі адкласці на нейкі час. Нават калі злодзей быў вядомы, але не ўсе патрэбныя



ўдзельнікі прысутнічалі на капе, пастанову адцягвалі з думкай, што зла чынца можа штосьці ведаць аб стратах, якія маглі панесці ў апошні час адсутныя. Галоўнай матывацыяй такой дзейнасці было пачуццё сусед скай узаемадапамогі, а таксама жорсткае стаўленне копнага права да нявыхаду на суд. Толькі на гарачай капе абмяжоўваліся наяўнымі ўдзель нікамі з прычыны яе спецыфікі.

Каб хоць неяк паменшыць колькасны склад сходу дзеля большай эфектыўнасці судаводства і зручнасці яго ўдзельнікаў, копнае права выпрацавала звычай «заступніцтва» альбо «прадстаўніцтва». Чалавек меў права выступіць на судзе за кагосьці са сваіх родных ці адразу за ўсю сям'ю цалкам, калі гэтага вымагалі пэўныя абставіны. Такое прадстаў ніцтва можна назваць кроўным заступніцтвам. Можна прывесці наступ ныя прыклады: бацька выступае за сына; маці — за сына; дзеці — за бацькоў; брат — за брата; брат — за сястру і г. д. Акрамя кроўнага прад стаўніцтва, існавала і заступніцтва гаспадароў за сваіх падданых альбо гасцей. Дружына магла заступіцца ў судзе за свайго гаспадара. Прад стаўнікі пэўнага паселішча мелі права несці адказ на капе за ўсіх сваіх суседзяў. Вёска — за адну ці некалькі бліжэйшых. Такое часта практы кавалася, калі на капавішчы збіралася шматлікая колькасць людзей. Дадзены звычай ніяк не супярэчыў аднаму з асноўных палажэнняў коп нага права — абавязковы выхад на капу ўсіх членаў копнай аколіцы. Капа вельмі сур'ёзна падыходзіла да функцыянавання гэтага свайго надзвычайнага інстытута, а таму заўсёды пільна правярала, чаму ней кая асоба не з'явілася на ёй. Прычыны і акалічнасці павінны былі быць даволі важкімі. На заступніка накладвалася вялікая адказнасць, бо ён сведчыў не толькі за сябе, але і за іншага чалавека ці нават некалькіх людзей. Здаралася, што ў апошні момант прадстаўнік адракаўся ад свай го заступніцтва. Прыняць або не паказанні заступніка, вырашала капа і ў некаторых выпадках усё роўна патрабавала абавязковага выхаду на сход пэўнага чалавека асабіста.

У склад копнай зборкі ўваходзілі не толькі найбольш актыўна дзею чыя на ёй асобы: суддзі, ісцец і адказчык, але і іншыя, больш пасіўныя ўдзельнікі суда. Галоўнай афіцыйнай (дзяржаўнай, урадавай) асобай на сходзе з'яў ляўся возны. Да рэформы 1564 г. яго функцыі выконваў віж, а яшчэ ра ней намеснікі дзяржаўцаў і дзецкія. Без наяўнасці вознага не магла па чынацца, прынамсі, апошняя «прысяжная» («завітая») капа, якая мела вырашальнае значэнне, асабліва калі справа была дастаткова сур'ёзнай [12, с. 153].

Слова «віж», магчыма, утварылася ад «видеть» — «бачыць». Роля і асноўная функцыя вознага была наступнай: уважліва сачыць за ходам пэўнай справы і яе адпаведнасці праву копнаму, а пасля скласці ў пісьмо вым выглядзе пратакол — «рэляцыю» («квіт», «цэдулу»), якую потым даставіць да гродскага суда для запісу ў актавыя кнігі. Былі выпадкі, калі ён выступаў у ролі следчага падчас працы «гарачай капы» ці асведчання месца злачынства, мог пры згодзе копнікаў непасрэдна весці судовы працэс. Фіксаваў факты «нявываду следу» і «нявыхаду плаціць шкоду», нез'яўлення на капу, адмовы ад прынясення прысягі, узяцця злачынцы на паруку, рэагавання на копныя дэкрэты і шмат чаго яшчэ. Сядзеў воз ны на лаве разам з суддзямі, што выражала вялікую грамадскую павагу да прадстаўніка дзяржаўнай улады, звярталіся да іх «пане возны і стара на шляхта, і панове мужове (суддзі), і ўсе копнікі»! У выніку таго, што большасць каплян былі непісьменныя, а іх пастановы насілі ў асноў ным вусны характар, толькі дзякуючы дзейнасці вознага мы даволі шмат ведаем аб той судовай установе, якая знікла больш чым 200 гадоў таму. Суддзі, ісцы, адказчыкі і ўсе ўдзельнікі капы ўважліва сачылі за даклад насцю дадзеных справаздач, каб яны адлюстроўвалі толькі тое, што са праўды адбывалася на сходзе. Гродскі суд не ўпісваў рэляцыі вознага ў свае актавыя кнігі, пакуль выбраныя капой прадстаўнікі не пацвердзяць, што праца капы праходзіла так, як гэта запісана ў квіце. Невыкананне гэтага абавязку збоку копнікаў магло выклікаць неправамоцнасць са мой копнай пастановы. У сваю чаргу, зневажанне дадзенай традыцыі альбо свядомае скажэнне фактаў самім возным цягнула за сабою вельмі сумныя вынікі для апошняга ў залежнасці ад сур'ёзнасці справы.

Калі пэўнае здарэнне было надзвычай важным, а сярод шматлікіх членаў суда прысутнічалі «люди зацные» (знаць), то на капе мог знахо дзіцца «генерал» («енерал») — галоўны павятовы возны ці нават 2, 3 або 4 звычайных. Пры адсутнасці возных замест іх мелі права выступаць сельскі лаўнік, харужыя і іншыя мясцовыя ўраднікі. Але зусім не заўсё ды афіцыйныя дзяржаўныя прадстаўнікі прысутнічалі на копных збор ках. Яны былі не пастаяннымі і не самымі абавязковымі складнікамі сходу, з'яўляліся хоць і паважанымі, але ўсё ж такі толькі гасцямі на капе. Возны прысутнічаў на судзе па запрашэнні аднаго з бакоў, часцей па просьбе ісца, але і сама капа, адказчык і іншыя члены маглі паклікаць яго на працэс. Ісцыпаны часцей запрашалі возных на капу, чым ісцы сяляне, гэта можна патлумачыць тым, што паны і возныя маглі знахо дзіцца ў межах аднаго саслоўя. На копным пасяджэнні некаторы раз мусілі прысутнічаць адразу некалькі афіцыйных асоб ад розных бакоў.



Возны меў права здзяйсняць свае абавязкі толькі пры наяўнасці «стара ны» (сведак), якой па ўмовах III Статута ВКЛ павінны былі быць два шляхціца «веры годныя», толькі па вельмі дробных сялянскіх справах (са штрафам не больш чым у 20 коп грошай) ён мусіў быць адзін. Аднак возным бокам маглі выступаць ад аднаго да 14 чалавек або ўраднік уво гуле не меў пры сабе сведак (адзінкавыя выпадкі). Асобай вознага з'яў ляліся шляхціцы, ураднікі, зямяне, баяры, харужыя, сельскія кіраўнікі.

Возны быў арбітрам на судзе, дзе сачыў, рэгуляваў і фіксаваў працу гэтага жывога помніка звычаёвага права. Ён з'яўляўся часткай дзяржаў най юрыдычнаправавой сістэмы ў асяроддзі вуснага закону, што яск рава сведчыла аб натуральным і гарманічным узаемадзеянні двух судо вых традыцый у тагачасным грамадстве. «Старана», «старана сведкаў», «старана аколічная», «копная стара на», «людзі староннія», прытомны бок («пры том быў») — гэта ўсе тыя людзі, што знаходзіліся на капе не ў якасці абавязковых удзельнікаў як жыхары пэўнай копнай аколіцы, а выступалі ў ролі своеасаблівых све дак па запрашэнні аднаго ці некалькіх цяжэбных бакоў. Яны з'яўляліся спецыфічнымі сведкамі, бо маглі нават і дасканала не ведаць акаліч насці справы і дакладнай пазіцыі боку, які яны прадстаўлялі.

Старана галоўным чынам павінна была ўважліва сачыць, слухаць і назіраць за ўсім, што адбываецца на капавішчы, а таксама трымаць гэта ўсё ў сваёй памяці, каб потым, калі ўзнікне патрэба, пацвердзіць або абвергнуць канкрэтныя заявы наконт ходу копнага працэсу. Такія сведкі былі свое асаблівымі «жывымі пратаколамі» судовых пасяджэнняў. Таксама яны маглі ўдзельнічаць і ў працы гарачай капы. За згаданую дзейнасць ста рана атрымоўвала плату — «памятнае» (ад слова «памяць») [2, с. 15]. Прытомны бок з'яўляўся значнай маральнай і прававой падтрымкай таго альбо іншага копнага суб'екта: часцей за ўсё існа і адказчыка, а сустра калася, што і суддзяў, афіцыйных асоб ці нават усёй капы.

Сведкамі мелі права быць толькі прадстаўнікі іншай копнай аколі цы, бо мясцовыя жыхары абавязкова ўдзельнічалі ў сходзе ў выглядзе звычайных каплян. Часта прытомным бокам выступалі сябры або родзі чы той асобы, якая яго запрашала на капу. Іх маральныя якасці павінны былі адпавядаць асноўным умовам копнага права — «людзі добрыя, веры годныя» [4, с. 15]. Сацыяльны стан стараны ў большасці сваёй быў шля хетны (з прычыны большай значнасці слова апошніх), аднак сярод яе сустракаліся і прадстаўнікі мяшчанскасялянскага асяроддзя. Колькасць гэтых сведак не мела нейкага дакладна акрэсленага памеру: ад 2 да 6 ча лавек з аднаго судовага боку.



Старана магла з'яўляцца і суддзёй на капе ў выпадку свайго абрання на дадзеную пасаду ўсімі копнікамі аколіцы. Такія людзі былі сапраўд нымі знаўцамі копнага права, а некаторыя з іх з'яўляліся пастаяннымі ўдзельнікамі розных копных сходаў у гэтай якасці. Прытомны бок меў некалькі магчымых варыянтаў выканання ўскладзеных на яго абавязкаў. Калі сведкі былі пісьменныя, яны маглі самі скласці справаздачу судо вага пасяджэння, выканаўшы тым самым непасрэдную працу вознага. Іншы раз давалі вусныя паказанні перад гродскім судом, якія заносіліся ў актавыя кнігі. Старана з'яўлялася страхоўкай суб'ектаў копнага права і таму несла вялікую адказнасць, якая была выклікана ў першую чаргу не матэрыяльнымі інтарэсамі сведак, а іх высокімі маральнымі якасцямі. Здараліся выпадкі дзейнасці «заручных» (падкупленых) сведак, але час цей за ўсё капа хутка выкрывала іх. Тады караліся не толькі апошнія, а і бок, на якім яны выступалі, таму да іх паслугаў звярталіся рэдка. Афіцыйныя асобы на капе з'яўляліся дзяржаўнымі пісцамісведкамі ўсяго таго, што тут адбывалася. Іх нават нельга залічыць да традыцый ных каплян, не кажучы ўжо пра суддзяў. Але яны маглі імі стаць у вы падку свайго абрання на дадзеную ролю ўсёй капой. Такім чынам, ста тус згаданых афіцыйных прадстаўнікоў, акрамя выконвання імі свед чых функцый, поўнасцю залежаў ад пазіцыі сходу. Акрамя найбольш актыўных удзельнікаў капы ў яе склад часцяком уваходзілі звычайныя сведкі і простыя назіральнікі (зрэдку нават жан чыны і дзеці), якім цікава было ўбачыць копны працэс уласнымі вачы ма. Па справах, дзе прыносілася прысяга або ўжываліся нетрадыцый ныя метады допытаў — катаванні, павінны былі прысутнічаць святар і кат («містр», «майстар») адпаведна. З цягам часу, у другой палове XVII—XVIII ст., прадстаўнікі дзяржаў най улады ўсё больш і больш імкнуліся ўплываць на дзейнасць капы, што ў сінтэзе з развіццём прыгону і актывізацыяй вотчыннага суда ста ла галоўным чыннікам заняпаду ўстановы як органа аўтаномнай народ най правасвядомасці.

ЛІТАРАТУРА

1. Акты, издаваемые Виленскою Археографическою комиссиею / Предисл. И. Я. Спрогис. Т. XVIII. Акты о копных судах. Вильна, 1891. 577 с.

2. Демченко, Г. В. Притомные люди и копная сторона / Г. В. Демченко // Варшав ские университетские известия. 1899. № 5. С. 1—42.

3. Ефименко, А. Я. Народный суд в Западной Руси: исторический очерк / А. Я. Ефи менко // Русская мысль. 1893. Кн. 9. Отд. 3. С. 21—40.

4. Иванишев, Н. Д. О древних сельских общинах в ЮгоЗападной России / Н. Д. Ива нишев. Киев : Киевск. археогр. комис., 1863. 72 с.
5. Леонтович, Ф. Областные суды в Литве / Ф. Леонтович // Журнал министерства юстиции. 1910. № 9. С. 88—128.
6. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 1705. Брэсцкі гродскі суд. Воп. 1. Спр. 13.
7. Спрогис, И. Я. Древний народный копный суд в СевероЗападной Руси / И. Я. Спрогис. Витебск : Губ. тип., 1895. 19 с.
8. Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 года / пад. рэд. Т. І. Доўнар, У. М. Са толіна, Я. А. Юхо; рэдкал.: Т. І. Доўнар [і інш.]. Мінск : Тэсей, 2003. 250 с; Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года: Тэксты. Даведнік. Каментарыі. Мінск : БелСЭ, 1989. 573 с.
9. Черкаській, І. Громадській (копній) суд на Украіні — Русі XVI—XVIII вв. / І. Чер каській // Праці комісіі для виучування історіі західноруського та вкраінського права / за ред. Н. П. Васіленка. Киïв, 1928. Вип. 4. 257 с.
10. Шкялёнак, М. В. Беларусь і суседзі: гістарычныя нарысы / М. В. Шкялёнак. Бела сток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2003. С. 196—217.
11. Ясинский, М. Н. Материалы для истории судоустройства и судопроизводства в ЛитовскоРусском Государстве. Акты о копных и панских судах / М. Н. Ясинский. Т. 1: 1501—1588. Киев, 1897. 846 с.
12. Zakrewski, A. Wiz w rawie litewskim XVI w. / Ŕ. Zakrewski // Czaso ismo rawno Historyczne. Warszawa. 1985. T. XXXVII. Zeszyt 2. S. 153—164.